# Голас Беларуса

Адрэс радакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **3.000000 м.**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр.250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 17. Вільня, Нядзеля, 6-га красавіка 1924 г. Год I.


## У зачарованым коле.

Польская прэса высказывае сваю радасьць з прычыны „ўдачы“ санацыі дзяржаўных фінансаў. Але ў згодным хоры хвалебных гімнаў усьцяж пападаюцца рэзкія дысанансы: бо ў сваей істоце санацыя прадстаўляе нейкае зачарованае кола, ці, больш абразова кажучы, „трышкін кафтан“ з вядомай байкі Крылова.

Зварачае на гэта ўвагу нават такая „урапатрыатычная“ газэта, як „Gazeta Warsz.“. І хаця крытычнае становішча эндэкаў тлумачыцца тым, што яны рыхтуюцца ізноў захапіць уладу ў свае рукі, аднак, нельга прайсьці моўчкі міма некаторых зусім справядлівых уваг эндэцкага лейб-органу.

„Перадчасным быў-бы вывад, што санацыя ўжо выпаўнена“,—піша „Gaz. Warsz.“ у перадавіцы з 2 красавіка, — „што з поўным спакоем і з поўнай верай можна ўжо ўглядацца на будучыну. Галоўным варункам памыснага разьвіцьця адносін зьяўляецца ўсьцяж *бюджэтная раўнавага*. Гэтая раўнавага існуе цяпер, толькі дзякуючы падатку ад маемасьці“ (—нацыяналізацыі часьці маемасьці народу! — *Рэд.*)—„і дзякуючы далёка йдучай беражлівасьці. Каб яе захаваць, трэба рупіцца, каб падаткі наплывалі, як мае быць, і каб беражлівасьць была даведзена да крайніх межаў“.

Заява зусім справядлівая. Бюджэтная раўнавага ў Польшчы грунтуецца на тым, што дзяржава „праядае“ не даходы сваіх грамадзян, а іх *капітал*. І сярод тых кругоў, якія плацяць падатак ад маемасьці, на гэтым грунце ўжо узьнімаецца трывога: так, земляўласьнікі заяўляюць, што яны на першую „залічку“ аддалі ўвесь свой абаротны капітал, і ня ведаюць, скуль узяць грошы на далейшыя „залічкі“ і на вядзеньне гаспадаркі. Зямлі ніхто ня купляе: сялянства — асабліва на „Крэсах“, якое мела некалі зьберажоны грош у „царскіх“ рублях, а пасьля ў нямец. марках, цяпер зусім згалела, бо гэнымі сваімі „скарбамі“ можа толькі хіба сьцены ў хатах выклеіваць.... Дык і дарогай прадажы часткі дворнае зямлі грошы не здабудзеш. Вось, значыцца, нельга спадзявацца, каб гэтая група платнікаў падатку ад маемасьці магла і надалей акуратна плаціць „залічкі“.

Тое-ж кажуць і прамыслоўцы і... стараюцца спагнаць сваё, абрэзываючы плату работнікам і павялічаючы рабочы дзень. Але і гэта дарога ня можа давясьці да мэты: пры агульным зьбядненьні і слабым вывазе польскіх вырабаў заграніцу, на ўнутраны рынак разьлічаць ня прыходзіцца, і прамысловасьці—нават цаной крыўды працоўных мас — прыходзіцца лічыцца з бязмэтнасьцяй узьвялічываньня сваей вытворчасьці.

„Gaz. Warsz.“ ўсё гэта дужа добра разумее, бо зусім выразна кажа, што „калі дзяржава хоча павялічываць свае даходы з падаткаў, дык можа гэта рабіць толькі тады, калі агульны даход грамадзянства ўзрастае“, бо „даніны, плочаныя дзяржаве, прадстаўляюць часьць грамадзкага даходу—і то часьць, якое нельга павялічываць без канца“. „Калі дзяржава хоча ўзяць у грамадзян з іх заробкаў лішне вялікі процэнт, дык робіць удар нацыянальнай гаспадарцы, сваімі рукамі засыпывае тыя крыніцы, з якіх чэрпае свае даходы“.

Гэткі абраз, калі верыць абшарнікам і фабрыкантам, і прадстаўляе цяпер Польшча. „Галоўнай задачай дзяржавы павінна стацца падняцьце грамадзкага даходу, што заўсёды зьяўляецца вынікам разьвіцьця нацыянальнае гаспадаркі. Згэтуль вынікае патрэба мець дэтальна апрацаваную гаспадарчую палітыку“. Але *„такой палітыкі дагэтуль ня мае ані ўрад, ані Сойм“*.

Так кажа „Gaz. Warsz.“.

Абраз запраўды невясёлы. Затрата вялізарных сум на *чыста палітычнае* асадніцтва ані не дапаможа падняцьцю сельска-гаспадарчае вытворчасьці: усім ведама, як „гаспадараць“ асаднікі! З другога-ж боку прамыслоўцы ня могуць без канца *перакладаць сваю даніну на работнікаў*, бо тыя не дадуцца,—тым больш, што, каб вытворчасьць працы ў фабрыках не абніжалася, работнікі перш за ўсё павінны быць *сытыя*.

Дзе-ж выхад?

Пакуль-што польскі ўрад бачыць толькі адзін спосаб выйсьці з зачарованага кола: ён робіць заграцічныя пазыкі і распрадае нацыянальную маемасьць „акраін“ (Белавежская пушча!), ды паадзінокія галіны гандлю і прамысловасьці (прыкл. гандаль тытуном аддадзены за пазыку Італіі). За гэтым пойдуць пэўне чыгункі і капальні....

Але гэты выхад як-раз і напамінае „трышкін кафтан“: вартасьць ўсяго багацьця дзяржавы гэтак толькі будзе *паніжацца*. І ізноў вернемся да таго, аб чым кажа „Gaz. Warsz.“: да нішчэньня крыніц, на якіх грунтуецца сучаснае багацьце Польскае Рэспублікі...

Так імсьціцца адсутнасьць правільнае гаспадарчае палітыкі, якое „ня мае ані ўрад, ані Сойм“. Ніводзін з польскіх урадаў не адважыўся правясьці зямельную рэформу, якая ўзмацавала-бы вытворчыя сілы і аплатную здольнасьць сялянства. Ніводзін урад не пасьмеў узяць у свае рукі кіраўніцтва прамысловым жыцьцём, якое сам-жа ўтрымліваў на кошт народу. Ніводзін урад *не адважыўся нават мець* тую праграму, аб якой кажа „Gaz. Warsz.“: гэта вымагала бы занняцьця зусім выразнага *сацыяльнага становішча*, вымагала-бы рашучасьці пайсьці адкрыта і да канца з працоўнымі проці капіталістаў, ці з капіталістамі проці працоўных. На такі выбар ніхто не адважаўся: не адважыцца напэўна і ўрад п. Грабскага.

Адважыцца на яго, *ідучы з капіталістамі*, хіба толькі *хіена-пястоўскі ўрад*, калі вернецца да ўлады, або ўрад *сялянска-работніцкі*, які, ведама, пойдзе *проці капіталістаў*.

## Што робіцца у Югаславіі?

Надта цікавыя рэчы робяцца ў Югаславіі, якая неяк штучна зьлеплена з досыць розных нацыянальна-тэрыторыяльных частак, аддадзеных вэрсальскімі панамі Эўропы пад уладу сэрбаў, якія і лічаць сябе „прыроджанымі гаспадарамі“ ня толькі Сэрбіі, Босьніі і Гэрцэговіны, але і Кроацыі, ці Харватыі і інш. Гэтыя краі населяны харватамі і словінцамі, якія лічаць сябе *зусім асобнымі народамі*, дамагаюцца тэй ці іншай меры *самастойнасьці*, і ў кожным разе ня хочуць знасіць цэнтралістычнай дзяржаўнай манаполіі Сэрбіі...

Апошнія выбары далі такую „Скупшчыну“ (Сойм), у якой, праўда, сэрбы маюць значную перавагу (бо-ж самі і пісалі выбарны закон), але ў якой на 300 паслоў, больш як 100—нясэрбы і аж 70 харватаў і 22 словінца...

Харваты адразу са сваім правадыром Радічам заявілі, што дамагаюцца поўнай аўтаноміі Харватыі і не пашлюць сваіх паслоў да агульнага Сойму, пакуль ня будзе споўнена іх дамаганьне...

І вось габінэт Пашыча дагэтуль правіў краем, апіраючыся на „большасьць“ у 123 дэпутаты—сэрбаў радыкальнай партыі і туркаў, а маючы проці сябе опозыцыю ў 101 паслоў—сэрбскіх дэмакратаў і розных меншасьцяў, *ня лічучы ў тым 70 кроацкіх паслоў*, якія ня ехалі да Скупшчыны, працуючы і агітуючы ў сваім краі...

Як ведама, правадыр кроатаў Радіч нават жыве ў Вене—паза межамі краю — за сваю незалежніцкую дзеяльнасьць, — за „здраду стану“ і „абразу каралеўскага маестату“ (вялічаства) засуджаны сэрбскім судом і абавязкова папаў-бы ў вастрог, калі-б вярнуўся дамоў...

І вось, гэткі нездаровы, гвалцячы канстытуцыю стан гаспадарства—якраз найвыгаднейшы для сэрбскай гэгэмоніі (панаваньня), і Пашыч, *апіраючыся ў значнай меры на каралеўскую ўладу*, дагэтуль камандаваў краем бязспрэчна...

Зразумела, што харваты пачалі патроху разумець, што гэткае палажэньне—зусім нявыгадна для іх, і пачаўся перагляд іх нацыянальнай тактыкі—ў кірунку выкарыстаньня парлямэнту для дамаганьняў як найшырэйшай харвацкай аўтаноміі...

І вось, пасьля нарадаў з Радічам у Вене, было пастаноўлена выкарыстаць тасунак сілаў у сучаснай Скупшчыне, каб зваліць заядлага ворага харватаў Пашыча. Праз увесь час ішлі нарады з опозыцыяй і ў апошнія дні Радіч адкамандыраваў каля паловы харвацкіх паслоў да Скупшчыны. — 40 харватаў зьявіліся да Сойму, каб прыняць прысягу, і адно толькі іх паяўленьне адразу зваліла ўрад Пашыча...

Габінэт падаў у адстаўку. Але сэрбскія цэнтралісты, падтрымліваныя каралём, так прывыклі да ўлады і так баяцца скасаваньня сэрбскага цэнтралізму і наагул *грунтовых пераменаў*, якія пацягнуў-бы за сабой пераход улады да опозыцыі ў саюзе з харватамі, маючых яшчэ „ў рэзэрве“ 30 паслоў, што Пашыч ізноў атрымаў ад караля даручэньне стварыць новы ўрад... І вось, пачалася гарачыя акцыя Пашыча з каралём, каб раскалоць *опозыцыі*.. Неяк удалося далучыць з дэмакратычнай партыі 15 паслоў да ўрадовай „большасьці“, і вось габінэт дагэтуль трымаецца, *ня маючы зусім большасьці запраўды*, толькі дзеля таго, што Скупшчына ўжо каля 2 тыдняў, *як трымае ў камісіі і не зацьвярджае мандатаў усіх 40 харвацкіх паслоў*...

Гэты фокус пашычавай „большасьці“ ў Сойме, зразумела, выклікаў вялікае абурэньне опозыцыі. Правадыр астаўшыхся ў опозыцыі дэмакратаў пасол, Давідовіч зьявіўся да караля і выплажыў яму рашучае дамаганьне *опозіцыі* адняць уладу ад Пашыча... Кароль абяцаў, але, як сказана вышэй, у запраўднасьці круціць і падтрымлівае Пашыча, які карыстаючыся быццам *палючымі справамі* буджэту і інш., гатуецца да рашучай барацьбы з опозыцыяй і перадусім з харватамі...

Лёгка зразумець, што на гэткім грунце Сойм ня можа працаваць спакойна, і такія здарэньні, як апошняя бойка паміж радыкаламі і дэмакратамі з страляніной з рэвальвэраў—зусім зразумелыя...

Бачучы, што Пашыч з сваей „большасьцю“ праводзіць буджэт і ня складае ўлады, опозыцыя, зьявіўшыся разам з харватамі да Скупшчыны, зложыла дэклярацыю аб тым, што яна ўся *пакідае парлямэнт* і вернецца толькі тады, калі ў працягу тыдня будуць праверaны і зацьверджаны мандаты харвацкіх паслоў. Асталіся толькі ў Сойме радыкалы, 15 дэмакратаў Прыбічэвіча і мусульмане-босьнякі. І вось, ня гледзячы на гэты скандал, Пашыч заявіў, што Сойм павінен прадаўжаць прыняцьце буджэту, і Сойм прадаўжаў працу...

Буджэт прыняты 124 галасамі, — з 300!.. Вось, што значыць „парлямэнтарызм“ у Югаславіі...

Пасьля гэтага прэз. Скупшчыны Ісвановіч і Пашыч пайшлі да караля, куды быў запрошаны і лідэр опозыцыйных дэмакратаў Давідовіч... Але — ці што выйдзе з гэтага ўмяшацельства караля, можна сумлевацца...—Барацьба зайшла зашмат далёка, зашмат глыбока сэрбскія цэнтралісты пакрыўдзілі правы і інтарэсы злучаных у адзіную дзяржаву самастойных народаў,—каб мірным шляхам, да йшчэ гэткім *няшчырым пасрэдніцтвам караля* магло ўратавацца палажэньне... Трэба хутчэй чакаць роспуска Скупшчыны, што быццам ужо і абяцаў, апіраючыся на свайго *сэрбскага* караля, Пашыч...

С.

# „Антыпольскія ухвалы беларускіх сацыялістаў“.

Пад гэткім загалоўкам „Echo Wileńskie“ ў № 8 ад 4/IV с. г. зьмяшчае артыкул, які лічым патрэбным падаць да ведама нашых чытачоў.

„1 сакавіка 1924 г. ў Менску адбыўся зьезд Беларускай сацыялістычнай партыі, на якім прынята гэткая рэзалюцыя:

„Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, паўстаўшая ў пачатку 1918 г. з левага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады, скіравала сваю дзеяльнасьць і тактыку ў кірунку рэвалюцыйна-сацыялістычнай барацьбы ў абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і пралетарыяту Беларусі, а таксама ўтварэньня самадзельнай Беларускай рэспублікі.

Спачатку, партыя імкнулася да ўтварэньня дэмакратычнай Беларускай народнай рэспублікі.

Дзеля гэтай мэты, супраць сацыялістычна-рэвалюцыйным пераконаньням, партыя пашла ў кірунку згодніцкім з дробна буржуазнымі партыямі і арганізацыямі, а таксама брала ўчасьцё ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ў пачатку рэвалюцыі ўтварылася ў Менску.

Далей у сьнежні 1919 году пасьля расколу паміж сябрамі Рады і пасьля выхаду з Рады капіталістычных групаў, партыя ў лучнасьці з Беларускай партыяй сацыялістаў-фэдэралістаў утварыла, працівастаўляючы арганізаванай праз беларускія капіталістычныя групы Найвышэйшай Радзе,—Народную Раду і Урад.

Аднак прэзыдыум Рады і Урад, утвораныя праз партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў пасьля эміграцыі заграніцу ўтрацілі сувязь з партыяй і вялі палітыку, ня згодную з інтарэсамі працоўных масаў.

Паміж іншым, з часам Урад гэты папаў у рукі сацыялістаў-фэдэралістаў і беспартыйных і істнуе дасюль на Літве, як кіраўнік контррэвалюцыйнай палітыкі.

У пачатку 1920 г. партыя перака볼налася ў нікчэмнасьці парлямэнтарных формаў дзяржаўнага ладу і станула на плятформе ўраду саветаў.

Аднак частка партыі не магла вызваліцца ад опортуністычных пагляданў, у выніку чаго ўся тактыка партыі ня мела роўнае і пэўнае лініі павядзеньня.

Часам гэтая партыя становіцца на шлях актыўнай рэвалюцыйнай барацьбы, ідзе аднаітым фронтам, пад лёзунгамі савецкага ладу, разьвіваючы рашучую баявую дзейнасьць, скіраваную процію буржуазіі, часам-жа ўваходзіць у перагаворы з угадовымі групамі і разам з імі праце.

Гэтая няяснасьць думкі і тактыкі беларускай партыі эсэраў не дала ёй магчымасьці заняць выразнага мейсца ў палітычным жыцьці Беларусі і вясьці за сабою працоўныя масы да рашучай барацьбы з капіталам.

Гэта давяло ў выніку да разьбіцьця і ўспасобіла адносна да сябе варожа камуністычную партыю.

У гэтым часе распачатая пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі барацьба з буржуазіяй на тэрыторыі бывшай Царскай Расеі прывяла да поўнай перамогі.

Залажыла моцны фундамант сацыялістычнага ладу, вывела прыгнечаныя дасюль нацыянальнасьці, у тым ліку і беларускую, на шлях вольнай адбудовы і стварыла сільны баявы асяродак, надаючы пралетарыяту Заходняй Эўропы і ўсяго сьвету правільны кірунак.

Надзея беларускіх палітычных грамадзкіх дзеячоў Заходняй Беларусі, якая цяпер знаходзіцца ў межах панскай Польшчы, што дачакаюцца праз складаньне дэклярацыяў капіталістычнаму ўраду Лігі Народаў, гэтаму капіталістычнаму інтэрнацыяналу, вызваленьня беларускага народу не прывядзе да мэты і прывясьці ня можа, бо закон капіталістычнай лёгікі апіраецца на імпэрыялізьме, на экспляатацыі і калянізацыі.

Спробы беларускіх рэвалюцыйных арганізацыяў Заходняй Беларусі, самадзельнага распачацьця барацьбы з панскай Польшчай не вядуць і ня могуць давясьці да перамогі.

Адрадзіўшаяся ў выніку рэвалюцыі 1917 г. Польшча, якая сама нядаўна пачала вызваляцца з-пад ярма нацыянальнай няволі, дзякуючы стварэньню сваей дзяржаўнасьці на капіталістычных падставах—сталася прыкладам дзікай нясумленнай палітыкі ўціканьня нацыянальных меншасьцяў.

У гэтым самым часе ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы росквіт і разьвіццё нацыянальнай культуры пасоўваецца шыбкім крокам і праводжаная камуністычнай партыяй праграма адчыняе шырокія пэрспэктывы.

Абмеркаваўшы ўсё гэтае і бачучы, што камуністычная партыя ў сацыяльных і нацыянальных пытаньнях давяла да мэты, якая поўнасьцю адказвае інтарэсам беларускага пралетарыяту і сялянства, мы, бывшыя сябры беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, прыходзім да пераконаньня, што далейшае істнаваньне беларускай сацыялістычна-рэвалюцыйнай партыі зьяўляецца беспадстаўным і істнаваньне яе разьбіла-б адналіты фронт працоўных, затрымала-б разьвіцьцё сацыяльнай рэвалюцыі, перашкаджала-б умацаваньню савецкага ладу ў Беларусі і сталася-б контр-рэвалюцыйным, лічым, што ў сучасны мамэнт рашучай барацьбы пралетарыяту з капіталізмам, рэвалюцыйныя сілы ня могуць застацца бязчыннымі.

Мы абвяшчаем, што гатовы і надалей змагацца з капіталізмам за сацыяльныя і нацыянальныя правы працоўнага народу Беларусі і ўсяго сьвету пад сьцягам камуністычнай партыі. Заклікаем рэшту бывшых сябраў, або лічучых сябе за сябраў партыі эсэраў, як тут, так і заграніцай, усіх сільных духам ісьці тым-жа шляхам, што й мы.

Няхай жыве работніцка-сялянская ўлада на ўсім сьвеце!

Няхай жыве Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка!

Дэклярацыю падпісалі: *М. Асьвецімскі, Аніхоўскі, А. Барановскі, Э. Балевіч, Я. Белькевіч, П. Берднік, Б. Грушэўскі, А. Дзямідовіч, Я. Дубіна, М. Дубіна, Б. Залуцкі, А. Карабач, Смоліч, Касмовіч, Каспаровіч, Рэўкэ, К. Рэўкэ, Матчыцкі, Мамчыц, М. Маркевіч, П. Піськевіч, Семакевіч, А. Трафімаў, Б. Цішкевіч, А. Фёдараў, Пэвэтэрскі, К. Ленгольскі, Родзевіч*“.

*
* *

Зьмясьціўшы гэтую рэзалюцыю, „Echo Wileńskie“ дадае:

„Як відаць з гэтай дэклярацыі, партыя эсэраў, як самадзельная, перастала істнаваць, зрабіла ўмову з расейскай камуністычнай партыяй і поўнасьцю сталася партыяй камуністаў, якія належаць да III Інтэрнацыяналу.

Некаторыя з падпісаных на дэклярацыі асобаў год таму займалі ў Вільні выдатныя становішчы ў беларускім грамадзянстве і з боку Беларускага Нацыянальнага Камітэту выступалі чынна процiў польскага ўраду, пашыраючы сярод лёяльна настроеных да Польшчы беларусаў дэмагогічныя лёзунгі хатняй вайны і заклікаючы да злучэньня з Савецкай Расеяй. Пасьля высылкі з Польшчы знашлі прытулак у Коўне ў групе Ластоўскага, а цяпер знаходзяцца ў Менску Літоўскім (чаму не Беларускім? *Рэд.*), дзе разам з камуністамі і Літвою імкнуцца выклікаць паўстаньне на Усходніх Крэсах Польскай Рэспублікі.

Польскія ўлады павінны з усей энэргіяй праціставіцца гэтай варожай нам агітацыі. Усялякая толеранцыя і слабасьць з нашага боку можа выклікаць неаблічальныя ў выніках пасьледствы і ўзбурыць процiў нас лёяльна і прыхільна ўспасобленую люднасьць і грамадзянства беларускае, якое асуджвае гэтую рэвалюцыйную акцыю, не салідарызуючыся з ёю, а жадаючы спакойнага і ціхага супрацоўніцтва з польскім Урадам і грамадзянствам над адбудовай крэсаў.

4 красавіка а 5 гад. па паўдні ў Віленскім Грамадзянскім Сабраньні, Віленская 12, адбудзецца агульны сход сябраў з мэтай абмеркаваньня справаздачы з дзейнасьці і зацьверджаньня буджэту на 1924 г.

Праўдападобна, на гэтым сходзе адбудзецца першае спатканьне двух варожых сабе палітычных лагераў, двух арыентацыяў: савецкае і польскае“.

Што некаторыя польскія шовіністычныя чарносоценныя колы гатовы выкарыстаць усякі факт з жыцьця закардонных беларусаў, каб дамагацца ад ураду ўсё большых рэпрэсіяў для беларусаў, што жывуць у межах Польшчы, гэта ня нова і зусім у парадку рэчаў. Але пры чым тут так недарэчна прыплецена Грамадзянскае Сабраньне?

Вось тут-то і закопана сабака!

# Палітычныя падзеі.

## Крывавыя бойкі работнікаў з паліцыяй.

У Сасноўцу дырэкцыя капальні адмовілася выплаціць заработную плату сабраўшымся работнікам. Работнікі выламалі браму. Паліцыя разагнала работнікаў. Назаўтра работнікі зноў сабраліся каля дырэкцыі, але паліцыя была ўжо нагатове. Распачалася бойка паміж работнікамі і паліцыяй; паліцыя страляла ў работнікаў: ранена 14 работнікаў, страты паліцыі: 1 афіцэр і 19 паліцыянтаў паранена.

---

На капальні „Пяскі“ работнікі таксама дамагаліся выплаты заработкаў. Дырэкцыя адмовіла; работнікі не разыходзіліся; выкліканая праз дырэкцыю паліцыя пачала разганяць работнікаў, пры гэтым дала залп, у выніку чаго адзін работнік забіты, 12 цяжка ранена і шмат лёгка паранена.

Абурэньне работнікаў вялізарнае.

### Агульная забастоўка горнарабочых на ўсім Горным Шлёнску.

Пачаўшаяся генаральная забастоўка ўва усіх капальнях Верхняй Сілезіі прадаўжаецца. „Robotnik“ пратэстуе проці фальшывых вестак ПАТ'а, быццам забастоўка „ламаецца“,—наадварот яна стаіць вельмі моцна; бастуе ўжо 80 прац. усіх капальняў.

У Катовіцах адбыўся зьезд работніцкіх арганізацыяў, які абгаварываў далейшую акцыю забастоўкі, выдаў і гарачую адозву, у якой пратэстуе проці правакацыйнага павядзеньня паліцыі, выклікаючага крывавыя ахвяры...

### Забастоўка ў Дамброўскім і Кракаўскім горна-прамысловым райёне.

На конфэрэнцыі работніцкіх камітэтаў пастаноўлена 2/IV распачаць агульную забастоўку. Рэзалюцыя востра кляйміць ганебны замах капіталістаў на час працы і плату работнікаў,зрываньні ўмовы, лёкаўты і т. п. Пакуль што пастаноўлена да забастоўкі ня ўцягваць малых капальняў, вычакаўшы, якое становішча займе ўрад...

### Перад забастоўкай сельска-гаспад. работнікаў.

„Kur. Polski“ паведамляе, што Галоўны Ўрад прафэсыянальнага саюзу сельска-гаспад. работнікаў (батракоў) пастанавіў на паседжаньні 1 красавіка абвесьціць забастоўку, калі ня дойдзе да паразуменьня з працадаўцамі.

### Міністар Грабскі аб фінансавай сітуацыі ў Польшчы.

На паседжаньні буджэтна-фінансавай камісіі мін. фінансаў п. Грабскі зрабіў вялікі даклад аб усім тым, што зроблена ім у справе санацыі скарбу. П. Грабскі падкрэсьліў, што зроблена ўсё, дзякуючы выняткавым паўнамоцтвам ураду. Міністар спадзяецца, што ў працягу гэтых паўнамоцтваў (6 месяцаў) уся санацыя будзе закончана. Цяпер астаецца яшчэ вялікае дзела: вылавіць марку з абегу і замяніць яе на новую залатую валюту. 28 красавіка адчыняецца Эмісыйны Банк, які і займецца гэтай справай. П. Грабскі „поўны надзеі, што гэта нам зусім удасца“.

### Ізноў — „рэарганізацыя адміністрацыі на Крэсах“.

На парадак дня бліжэйшага паседжаньня Рады міністраў ізноў пастаўлена справа рэарганізацыі адміністрацыі на Крэсах, якая ўжо колькі разоў абгаварывалася бясплодна...

### Ці здолее Сойм аддаць пад суд бывшага мін. фінансаў Кухарскага.

Як ведама, пасол П. П. С. Морачэўскі ўнёс у Сойм прапазіцыю, — аддаць пад суд новага Трыбуналу Стану бывшага хьена-пястоўскага мін. фінансаў п. Кухарскага за яго прадажу Жырардаўскіх фабрык прыватным капіталістам з вялікай крыўдай для дзяржавы.

І вось, на апошнім паседжаньні Сойм пастанавіў выбраць спэцыяльную камісію для дакладнага досьледу ўсей гэтай справы. Галасавала за камісію нават Хьена, быццам пэўная таго, што ўся справа п. Кухарскага—зусім чыстая „юрыдычна“. Але-ж яна забывае, што гэткія Трыбуналы для міністраў судзяць апошніх ня толькі за парушэньні закону, але і за пагвалчэньні інтарэсаў гаспадарства... Склад камісіі, здаецца,—не карысны для п. Кухарскага.

### Гаспадарка работніцкага ўраду ў Англіі.

Першы буджэт, уложаны работніцкім урадам, здалеў скараціць выдаткі на дзяржаўную гаспадарку на 200 мільёнаў даляраў, касуючы толькі запраўды непатрэбныя расходы.

### Ізноў — Клайпэда...

Усходняе Агенства падае, быццам ангельская газэта даведалася, што Францыя і Італія афіцыяльна заявілі аб сваей згодзе падпісаць Статут Клайпэды, але толькі пасьля таго, як у ім будуць забясьпечаны правы і інтарэсы Польшчы... Але, з другога боку, ангельскі ўрад загадаў сваяму паслу ў Парыжу рашуча падтрымаць Статут у прынятай Радай Лігі форме.

### Інтэрпэляцыі ў Сойме аб надужыцьцях паліцыі на беларускіх „крэсах“.

На апошнім паседжаньні Сойму беларускія паслы злажылі рад інтэрпэляцыяў у справе пагвалчаньня правінцыяльнай паліцыяй вольнасьці пасольскіх мітынгаў і наагул паліцэйскіх гвалтаў на Крэсах.

Апроч таго, пас.—вызваленец Вэндзягольскі ўнёс інтэрпэляцыю аб тым, што на адбыўшымся 25/III ў Вільні зьезьдзе Вызваленьня прадстаўнік Камісара Ураду не дапусьціў да дыскусіі над дакладамі, пагражаючы зачыніць сабраньне. П. Вэндзягольскі дамагаўся прыцягнуць да адказнасьці п. Камісара Вімбора.

### Кангрэс нямецкіх нацыяналістаў.

1-га красавіка адчыніўся ў Гамбурзе кангрэс усіх арганізацыяў нацыяналістаў у Нямеччыне. Запрапанавана аб'яднацца з нацыянал-сацыялістамі Гітлераўскага напрамку. Лідэр нацыяналістаў Гэргт у сваей прамове заявіў, што пачуцьцё крыўды ніколі ня было так моцна ў нямецкім народзе, як цяпер і што настае час ачысьціць Нямеччыну ад панаваньня чужынцаў, а перадусім ад жыдоўскага засільля і „жыдоўскіх ідэяў“ (чытай: сацыялізму..).

### Ваенны кантроль над Нямеччынай.

На паўторную ноту Рады Амбасадораў (паслоў Антанты) аб неабходнасьці панаўленьня кантролю над Нямеччынай, каб сьцьвярдзіць яе разаружэньне, нямецкі ўрад ветліва, але рашуча, паўтарыў тое, што пісаў у папярэдняй ноце. Ён згаджаецца, што можа поўнае разаружэньне яшчэ не закончана і прапануе ўсю справу аднаразовага сьцьверджаньня гэтага факту перадаць бязстароннай Лізе Народаў.

Але ён рашуча пратэстуе проці зусім непрадугледжанага Вэрсальскім Трактатам устанаўленьня наагул настаяннага ваеннага кантролю Антанты над Нямеччынай, што „выклікала-бы у яе апініі настроі, якія зусім не вялі-б да міру Эўропу“..

### Вынікі працы камітэтаў рэчазнаўцаў.

Уся сусьветная прэса прыдае аграмадную важнасьць вынікам працы абодвух камітэтаў рэчазнаўцаў, якія маюць акрэсьліць фінансавыя здольнасьці Нямеччыны і разьмер адшкадаваньняў... Абодва камітэты ўжо скончылі сваю працу і ў гэтых днях падаюць яе вынікі ў камісію адшкадаваньняў, якая мае прыняць аканчальнае рашэньне. Як пішуць, рэчазнаўцы аднагалосна пастанавілі, што Нямеччыне трэба даць міжнародную пазыку ў суме 1 мільярда залат. марак—для адбудаваньня фінансавай яе раўнавагі і здольнасьці плаціць адшкадаваньні... што значыць цяпер гэткая пазыка, мы ведаем з прыкладу Польшчы. Як бачым, гэта—якраз тое, чаго заўсёды дамагалася Нямеччына, якая на гэтую пазыку яшчэ больш разаўе сваю прамысловасьць і паб'е канкурэнтаў...

### Мараторыум для Нямеччыны.

Парыжскія газэты пішуць, што Камітэты Рэчазнаўцаў пастанавілі аб канешнасьці для Нямеччыны мараторыя (адсрочкі выплатаў) на 4 гады.

### Забастоўка чыгуншчыкаў у Нямеччыне.

Пачаўшаяся ў Эльбэрфэльдзе забастоўка чыгуншчыкаў пагражае распаўсюдзіцца на Бэрлін, Гамбург, Брэмэн і інш. месты.

### Здарэньні ў часе хаўтуроў рурскай ахвяры ў Бэрліне.

Хаўтуры замучанага ў францускім вастрозе нейкага Дрэйера выклікалі ў Бэрліне вялікую маніфістацыю, у якой прынялі ўдзел міністры У часе перавозу нябошчыка з вакзалу паміж паліцыяй і гітлераўцамі дайшло да бойкі. Гітлераўцы таксама зрывалі сьцягі, што нясьлі рэспубліканцы...

### Трыумф Пуанкарэ.

У часе дыскусіі над экспозэ новага ўраду Пуанкарэ дэпутат Габорі падкрэсьліў, што да габінэту ўвайшлі колькі дзеячаў, што датаго змагаліся з Пуанкарэ. Нават Блян (камуніст) заявіў, што Пуанкарэ споўніў дамаганьні камуністаў, скасаваўшы ўсіх віцэміністраў... Блян ад імя камуністаў патрэбаваў, каб Парлямэнт перад роспускам абвясьціў амністыю ўсім, што засуджаны за палітычныя праступленьні...

### Новая забастоўка ў Англіі.

Толькі што закончылася забастоўка трамваяў, як выбухла новая—ў арэплянавых парках...

### „Выбарная кампанія“ фашыстаў.

Не праходзіць дня, каб з Італіі ня было вестак аб забойствах на грунце выбарнай „агітацыі“... Ізноў у Бары адбылася бойка паміж фашыстамі і рэспубліканцамі (?)...

# Зьверскае катаваньне арыштаваных.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

*паслоў Беларускага Клюбу да Пана Міністра Справядлівасьці і Пана Міністра Унутраных Спраў у справе катаваньня арыштаванага Базыля Юрэчка і працягваньня судовага сьледзтва больш за 20 месяцаў.*

19-га ліпня 1922 г. арыштаваны Базыль Юрэчка ў м. Аўгустове. Юрэчка быў сьлесарам і працаваў пры варштаце на фабрыцы Васілеўскага,адкуль ад працы забралі яго і перавязьлі да крымінальнай паліцыі ў Горадне. Далей распачаўся дапрос арыштаванага, які ў сваім зьверстве дасягае шчыту зьдзекаваньня ўрадоўцаў Польскай Дзяржавы—палякоў над беларусам, які мае ўсе правы грамадзяніна, загварантаваныя нават міжнароднымі трактатамі, якія абавязваюць таксама і Польшчу, а якая, аднак, выразна пашла шляхам пагвалчаньня гэтых правоў адносна беларусаў.

З мамэнтам распачацьця дапросу арыштаванага Юрэчка, Камісар Дзяржаўнай паліцыі заявіў, што арыштаваны хацеў адарваць Гарадзеншчыну ад Польшчы, каб утварыць Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку, што ён—партызан, быў у м. Мэрэчы, знае „Хмару“, а так-жа склад аружжа. Калі арыштаваны, ня маючы ніякага паняцьця аб парушаных праз Камісара, пачаў пярэчыць стаўляным яму закідам, тады вывядоўца ўдарыў яго па твару, кажучы: „скажы, што ўсё—праўда і падпішы пратакол, тады мы цябе звольнім ад усялякага дазнаньня і атрымаеш свабоду“. Аднак Юрэчка кляўся Богам, што нічога ня ведае аб пастаўленых яму закідах, але вывядоўца сказаў: „Твой Бог, гэткі сама подлы сабака, які ты, аднак зараз усё зробіш, як мы захочам і скажаш тое, што нам патрэбна“. І пасьля гэтых словаў распачаліся запраўдныя катаваньні і мукі, нягодныя нават зьвера.

Перш надзелі яму на рукі і ногі кайданы, кінулі яго на зямлю, уставілі паміж рук і ног палку і пачалі біць прутамі ў пяты, а калі катаваны пачаў немым голасам крычаць, дык адзін з катаў-вывядоўцаў накінуў яму на галаву мяшок, заткнуў рот і сеў на галаву, а іншыя каталі далей, пакуль катаваны не самлеў. Калі катаваны прышоў да прытомнасьці, дык зноў пачалі катаваць. Закаванага ў кайданы падымалі ў гару і кідалі на падлогу; далей зьнялі кайданы з ног і змушалі бегаць па пакою, папіхаючы кіямі і прыкладамі ад карабінаў і бязьлітасна бьючы; беганьне гэтае было немагчымае да выкананьня, бо няшчасны чуў сябе ўжо бяз ног, з прычыны тых катаваньняў, якія ўжо дазнаў. Далей цкавалі няшчаснага сабакам, укладалі пруты паміж пальцаў і сьціскалі іх дзьвярыма а таксама запіхалі іголкі пад пазуры.

Калі катаваны траціў прытомнасьць, дык аблівалі яго вадою. Гэткім спосабам Юрэчка быў катаваны пяць разоў і пасьля апошняга катаваньня, калі ён быў на палову прытомны далі яму ў рукі пяро і адзін з вывядоўцаў, водзячы рукою катаванага па паперы, напісаў яго прозьвішча. Праз 5 дзён Юрэчку дапрошваў іншы пан, які загадаў яму падпісаць пратакол, ня глядзечы на тое, што Юрэчка ня прызнаўся да віны. Пасьля гэтых мукаў няшчаснага пасадзілі ў вастрозе ў Горадне пад знакам 51—102, а сьледзтва стаў вясьці сьледчы судзьдзя Комар.

Праходзіць ужо 2 гады, а аднак сьледчы судзьдзя Комар ня здолеў яшчэ закончыць сьледзтва. Змучаны і схудаўшы арыштаваны прабаваў 3 разы галадаць, каб змусіць сьледчага закончыць справу. Пасьля кожнай галадоўкі судзьдзя запэўняў, што справа ў хуткім часе будзе прадстаўлена суду, аднак арыштаваны прымушаны ўсё яшчэ пакутаваць за чыны, якіх не папоўніў.

Падобнае працягваньне сьледзтва можа дзеяцца толькі ў Польшчы, ніводная дзяржава не пазволіць сабе на караньне людзей 2 гадовым вастрогам бяз суду. Усе народы ўжо пазбыліся азіяцкіх спосабаў дапросу арыштаваных, мукаў, катаваньняў і зьдзекаў, толькі яшчэ адна Польшча робіць гэта над беларускім народам.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца паноў міністраў:

1) Ці ведаюць яны аб успомненых вышэй бясправўях, катаваньнях і трыманьні нявінных у вастрогах?

2) Ці маюць замер увясьці ў Польшчы культурныя, згодныя з пашанай чалавека спосабы дапросаў арыштаваных?

3) Ці маюць замер пацягнуць да судовай адказнасьці дзяржаўных урадоўцаў, якія выпаўняюць чыннасьці катаў?

4) Ці маюць замер заставіць сьледчага судзьдзю Комара больш дбаць і справядліва выконваць свае абавязкі, эвэнтуальна празначыць яму справы, адпаведныя яго сілам і здольнасьцям?

Варшава, 3 красавіка 1924 г.

### Барацьба францускіх батракоў.

Сельска-гаспадарскія работнікі ўва Францыі належаць да найбольш вызысканых працаўнікоў. Што-ж казаць ужо аб батраках у Польшчы, а асабліва — на нашых Крэсах, дзе польскі пан мае да работнікаў-беларусаў падвойную ненавісьць пагарду—клясавую і нацыянальную...

„Быдла“—даўно ўжо акрэсьлены сьцісла стасунак польскага пана да беларускага „хлопа“, як яны дагэтуль яшчэ карыстаюцца паўсюль „мовай з прад 61 году“ (скасаваньне паншчыны)...

Нашыя работнікі атрымліваюць наагул без параўнаньня менш, як францускія. Апроч таго, нашыя батракі ня маюць ані касаў хворых, ані дапамогі на выпадак хваробы, якія ўжо здабылі сабе францускія.

Цікава нашаму безьзямельнаму сельскаму пралетарыяту даведацца аб тым, якія дамаганьні „ўхваліў“ адбыўшыйся перад вясной ува Францыі Кангрэс „Краёвай Фэдэрацыі Аб'яднаных Работнікаў Ральлі“.

Вось чаго дабівацца Кангрэс на гэты год.

Ад 1-га сакавіка да 1-га чэрвеня па 18 франкаў у дзен з харчамі, па 24 франкі без харчоў. Ад 1-га чэрвеня да 1-га лістапада на 2 франкі болей. Ад 1-га лістапада да 1-га сакавіка 1925 г. — на 2 франка менш, як у першым квартале.

Калі лічыць сярэдня, франц. франк роўным паўмільёну, дык у сярэднім сельскі працаўнік дамагаецца ў дзень платы каля 10 мільёнаў, што, па цяперашнім цэнам прамысловых тавараў і хлеба,—зусім ня гэтак ужо многа...

У часе малацьбы плата павінна быць — іншая: па 4 франкі ў дзень бяз харчоў і 3 з харчамі.

Нармальны дзень працы—8 гадзін; у кожным разе ня можа перавышаць 10.

Гадзіны адпачынку — ад 1-га сакавіка па 1-га траўня—паўтары гадзіны на абед; ад 1-га траўня да 1-га лістапада—1 гадз. на сьнеданьне, 2 гадзіны на абед і 1 гадз. на падвячорак.

Здаецца, што пэўная лічба нашых беларусаў паехала разам з польскімі работнікамі ўва Францыю на кантракты, дык вельмі важна тым, што маюць ехаць яшчэ туды на заработкі, ведаць, што чужакам ува Францыі—шмат горай жывецца, як сваім (12, ці 18 месячнымі кантрактамі яны прымацаваны, як на паншчыне, да францускіх земляўласьнікаў — „патронаў“). Але Кангрэс усіх работнікаў пастанавіў у варунках працы і платы не рабіць ніякай розьніцы паміж сваімі краёвымі працаўнікамі і „обцокраёўцамі“—Арганізаваны ён сацыялістамі ці мо' нават камуністамі, якія, як ведама, кажуць, што, работнікі ня маюць бацькаўшчыны“, бо... іх усюды крыўдзяць, як чужынцаў...

Варта і нам падумаць аб тварэньні — якіх арганізацыяў сельскіх работнікаў, каб бараніцца проціў нялюдзкага вызыску паноў-абшарнікаў зусім безбаронных паасобку батракоў...—Бо толькі ў лучнасьці—сіла...

# З газэт.

### Грахі Мак-Дональда.

Польскія газэты ня маюць вока да Мак-Дональда і работніцкага ўраду Англіі. Кансэрватыўны „Kurjer Warszawski“ прыпамінае ўсе „грахі“ Мак-Дональда з часоў сусьветнае вайны, якія выяўляюцца ў прыхільнасьці да Нямеччыны і Расеі:

> Яшчэ ў 1914 годзе, зара пасьля выбуху вайны, ён радзіў сваім землякам дзяржацца нэйтральнасьці, змагаўся з палітыкай абароны Бэльгіі. У 1915 годзе вёў гарачую і нeўтамімую кампанію проці законапраекту аб агульнай вайсковай павіннасьці. Разам з Кеір Гардi, Андэрсонам і др. выдаў рад германафільскіх брашур. Даводзіў, што Францыя „пераняўшы саюз з Расеяй“, не магла „абмінуць наезду“. На сацыялістычным кангрэсе ў Норвіку (1916 г.) заявіў, што работнікі павінны захоўваць раўнавагу мысьлі, бо яны знаходзяцца „паза межамі аружнага канфлікту“.

Ну, апошні „грэх“, як паказала жыцьцё, не такі ўжо „цяжкі“: *цяпер* толькі працоўныя ўсяго сьвету на сваей скуры адчулі, да чаго давёў іх нацыяналістычны шал... А вось яшчэ адзін „грэх“:

> У 1917 годзе Мак-Дональд злажыў у парляманце свае міравыя прапазыцыі, знаходзячы нешта каля 20 аднадумцаў. У 1918 і наступным гадох, пасьля падпісаньня заміраньня, езьдзіў у Парыж угаварываць Лёйд-Джорджа, каб не паддаваўся Клемансо, які маніўся... пакрыўдзіць Нямеччыну.

Найвялікшым-жа грэхам, як гэта заяўляе „Gaz. Warsz.“, прыводзячы словы „Kur. War.“, было тое, што:

> „у 1917 годзе Партыя Працы прывітала бальшавіцкую рэвалюцыю ў Расеі, як досьвіткі новае эры, а ў 1920 г. перашкаджала ў дастаўцы амуніцыі для Польшчы ў часе бальшавіцкага наезду і, нават, пагражала агульнай забастоўкай“.

### З польскіх настрояў.

Эндэцкі Głos Narodu“ дае гэткую фармуліроўку варункаў „згоды“ палякоў з жыдамі:

